**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 24 (792) 11 чэрвеня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

## Браславу – 950 гадоў!



**На свята 950-х угодкаў Браслава завіталі госці з Латгаліі** (усходняя частка Латвіі) **– клуб гістарычнай рэканструкцыі "Kroma Kolna" (г. Рэзэкне).** *Фота Ул. Скрабатуна.*



## Кожны чалавек можа аказаць дапамогу людзям, падвергнутым супрацьпраўным замахам

Сямейнае няшчасце схаваць немагчыма! Проста асобных людзі імкнуцца не заўважаць таго, што іх не датычыць наўпрост. З 5 па 14 чэрвеня 2015 года аддзел унутраных спраў Глыбоцкага раённага выканаўчага камітэта праводзіць комплекс мерапрыемстваў па прафілактыцы правапарушэнняў, якія здзяйсняюцца ў сферы сямейна-бытавых адносін, папярэджанню п'янства і алкагалізму, фармаванню здаровага ладу жыцця грамадзян.

Кожны чалавек, які паведаміў пра няшчасныя сем'і па тэлефонах: МТС 597-21-74, Велком 314-89-02, 2-26-82, 2-27-02 ці 102, можа прыняць удзел у гэтым мерапрыемстве і аказаць дапамогу, падвергнутым супрацьпраўным замахам людзям!

**А.І. Гігола,**
*начальнік ААПП Глыбоцкага РАУС.*

ISSN 2077-8023



Полацкі раён

# Працэс ідзе ў кабінетах

■ Чэслаў Якубовіч.

**На фоне складанай эканамічнай сітуацыі паўсюдна па краіне пакуль непрыкметна для насельніцтва пачаў дзейнічаць чарговы Дэкрэт № 3, накіраваны супраць дармаедаў.**

Гэтай справай зараз заняліся падатковыя інспектары і ў цішы сваіх кабінетаў складаюць спецыяльныя рэестры працаздольных грамадзян, якія нідзе не працуюць, але маюць даходы. Усяго па Віцебшчыне ўжо выявілі такіх 32 тысячы чалавек. Цікава, што ўслед за абласным цэнтрам выявілі найбольш незанятых грамадска карыснай працай у самым старажытным горадзе Беларусі Полацку, дзе ў спіс парушальнікаў занеслі прозвішчы 4900 палачан. У шэрагу з іх могуць запатрабаваць і дэкларацыі аб даходах і маёмасці, а ў большасці непрыемнасці пачнуцца ў наступным годзе, калі з "тунеядцев" пачнуць патрабаваць выплату новага падатку. Між тым сітуацыя на Полаччыне, як і ў суседзяў, таксама няпростая, бо і тут існуюць даўгі па выплаце заробкаў. Праўда, дзякуючы знаходжанню ў рэгіёне багатага горада нафтахімікаў, сярэднямесячная зарплата па раёне (5,867 млн. рублёў) вышэй за сярэднеабласную. Аднак нават у навапалачан рэальныя даходы за год зменшыліся на 12,4 % і яны цяпер больш чым па мільёну рублёў зарабляюць меней больш багаценькіх мінчан. Многім жыхарам Полаччыны раёна такія заробкі па 7-8 млн. рублёў могуць толькі сніцца, бо на вёсцы яны яшчэ і затрымліваюцца. На многіх прамысловых прадпрыемствах таксама няпростая абстаноўка, паколькі і на самым паспяховым ААТ "Полацк-Шкловалакно" да трэці гатовай прадукцыі ідзе на склад.

Пастаўскі раён

# Выжывай, як хочаш

■ Кастусь Александровіч

**Беларусь адзіная ў Еўропе захавала калгасны лад на зямлі і ў выніку акрамя безгаспадарчасці сёлета сутыкнулася з сур'ёзнымі праблемамі па аплаце працы вяскоўцаў.**

Вось і ў Пастаўскім раёне ў пачатку лета такая запазычанасць перавысіла 2 млрд. 603 млн. рублёў. Праўда, тут удалося хоць пагасіць усе даўгі людзям за іх дзейнасць на палях і фермах яшчэ ў пачатку вясны за сакавік, з дапамогай, у тым ліку, і натураплаты. Аднак за напружаную працу ў наступных месяцы на веснавой пасяўной не змаглі разлічыцца 7 гаспадарак краю і 2 прамысловыя прадпрыемствы – Варапаеўскі дрэваапрацоўчы камбінат і Пастаўскае прадпрыемства меліярацыйных сістэм. На месцах адшукалі магчымасць выплаціць сваім работнікам заробкі замест грошай прадуктамі харчавання на 400 млн. рублёў, а вось іншых крыніц фінансавання пакуль не прагледжваліся. Асабліва няпростае становішча з даўгамі склалася ў буйных гаспадарках раёна "Камайскі-агра" (788 млн. рублёў), "Дунілавічы-агра" (456 млн.), "Пастаўскі райаграсервіс" (360 млн. рублёў), а таксама і на Варапаеўскім ДАКу, дзе паскрыху скарачаюць "лішніх" людзей. Трывожна, што на Пастаўшчыне, як і ў іншых раёнах, растуць адначасова запазычанасці па плацяжах у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва, выплаты па падатках. Каб хоць крыху закрыць фінансавыя дзіркі на месцах, кіраўніцтва Віцебскай вобласці вымушана было на 6 чэрвеня прызначыць чарговы абласны суботнік.

Мёрскі раён

# Ад прадзедаў спакон вякоў

■ Станіслаў Раманчук.

**Ва ўсім свеце рухаюць развіццё цывілізацыі і прагрэсу ва ўсіх сферах менавіта таленавітыя, захопленыя чымсьці асобы.**

Да такіх адносіцца і вядомы ў краіне краязнаўца, настаўнік гісторыі з саракагадовым стажам Міёрскай СШ № 3 Вітольд Ермалёнак. Сёлета напрыканцы чарговага навучальнага года споўнілася даўняя мара педагога і ў райцэнтры з'явіўся арыгінальны дом-музей "Сялянская хата". Асабліва пашчасціла вучням мясцовай СШ № 3, бо гэты музей размясціўся ва ўнутраным двары гэтай школы. Дарэчы, ён стаў чацвёртым па ліку, створаным па ініцыятыве Вітольда Антонавіча. Яшчэ за савецкім часам у горадзе паўстаў першы школьны гісторыка-этнаграфічны музей. Потым з дапамогай калег і вучняў, удзельнікаў пошукавых экспедыцый па родным краі з'явіліся яшчэ цікавыя музеі старажытнай кнігі і друку і музей адукацыі. Кіраўніцтва раёна, мясцовы райсельгасхарч і шэраг іншых мясцовых арганізацый дапамагло настаўніку ажыццявіць новую задумку. На тэрыторыі раёна быў адшуканы патрэбны сялянскі будынак, які поўнасцю аднаўляе ўмовы быту землякоў у пачатку мінулага стагоддзя. Цяперашнія дзеці ды і маладзейшыя дарослыя слаба ўяўляюць, як жылі і працавалі раней іх продкі, дзяды і прадзеды. У новым музеі ўдалося сабраць многія арыгінальныя рэчы мінуўшчыны – сярпы, жорны, кросны, калаўроты, газавыя лямпы і многае іншае. На адкрыццё музея прыйшло шмат гасцей, а глава раёна Ігар Кузняцоў шчыра падзякаваў педагогу за нястомную працу, уручыў яму падарунак і прывітальны адрас. Цяпер музей на школьным двары пачаў прымаць наведвальнікаў, бо кожны тут адчуе непаўторны дух жыцця і быту нашых продкаў.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 11.06.15 | | | | Пятніца 12.06.15 | | | | Субота 13.06.15 | | | | Нядзеля 14.06.15 | | | | Пан. 15.06. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +10 | +14 | +20 | +16 | +12 | +17 | +22 | +19 | +14 | +20 | +25 | +21 | +16 | +24 | +29 | +24 | +15 | +18 | +22 |
| Ціск | 751 | 750 | 748 | 748 | 749 | 749 | 747 | 748 | 747 | 747 | 745 | 744 | 743 | 741 | 738 | 738 | 739 | 738 | 734 |
| Вільготнасць | 74 | 56 | 41 | 60 | 82 | 70 | 41 | 60 | 79 | 64 | 40 | 67 | 73 | 71 | 47 | 68 | 67 | 67 | 73 |
| Вецер м/сек | 1 Пд-З | 3 З | 5 З | 2 Пд-З | 1 Пд-З | 2 Пд-З | 4 З | 1 Пд-З | 3 Пд | 3 Пд | 4 Пд-З | 3 Пд-У | 4 Пд | 4 Пд | 6 Пд-З | 3 З | 2 Пд-З | 2 У | 4 Пн-У |

# Аб самым надзёным

## УСТУПЛЕННЕ Ў ЕЎРАЗІЙСКІ ЭКАНАМІЧНЫ САЮЗ (ЕАЭС) ТАК І НЕ СПРАЎДЗІЛА НАДЗЕІ БЕЛАРУСКІХ ВЫТВОРЦАЎ, ШТО ІХ СПРАВЫ ПАЛЕПШАЦЦА

ЕАЭС

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Невыпадкова напрыканцы мая ў Казахстане сабраліся прэм'ер-міністры трох вядучых дзяржаў ЕАЭС. Гэта інтэграцыйнае аб'яданне быццам і дзейнічае, а што з таго толку?**

**Трэці год запар усё больш хуткімі тэмпамі падае ўзаемны тавараабарот унутры гэтага саюза.**

Пачатак сёлетняга лета, як і чакалася, яшчэ болей абвастрыў існуючыя праблемы беларускай эканомікі. Па дадзеных статыстыкі, цяпер ужо 80% нашых заводаў і фабрык працуюць толькі 4 дні на тыдзень, а па пятніцах іх працаўнікі могуць смела выбірацца на свае дачныя ўчасткі, або да родных у вёску. Як паведамілі СМІ, нават адзін з самых тэхнічна перааснашчаных заводаў, сталічнае ААТ "Атлант" па выпуску халадзільнікаў і пральных машын зноў спыніла свой галоўны канвеер. Таксама і вядомая фабрыка па пашыве жаночага адзення "Мілавіца" вымушана перавяла сваіх работніц на працу толькі 3 дні на тыдзень.

І такіх фактаў можна прыводзіць шмат, паколькі па Беларусі адчуваюць сур'ёзныя цяжкасці многія прадпрыемствы і арганізацыі. У Гаспадарчых судах на разглядзе ўжо дзясяткі спраў аб прызнанні іх банкрутамі. Сапраўды, па краіне падаюць аб'ёмы вытворчасці на фоне росту складскіх запасаў, затрымак выдачы зарплат, а месцамі і скарачэння штатаў працоўных. Праўда, высокапастаўленыя чыноўнікі сталі супакойваць людзей, што цэны на прадукты сёлета расці не будуць, не падаражэюць тарыфы на праезд у грамадскім транспарце і паслугі сувязі. Гэта дало падставу аднаму з членаў урада запэўніць, што ніхто з галоду ў нас не памрэ.

Беларускі лідар таксама выказаўся днямі ў тым духу, што беларусам не патрэбен рост заробкаў, калі не будуць расці цэны. Добра так гаварыць розным начальнікам і дырэктарам, у каго аклады з прэміямі пачынаюцца ў раёне 10 і болей млн. рублёў у месяц. А між тым, заробкі беларусаў, хто не ведае, ужо сталі меншыя зараз, чым сярэднестатыстычныя пенсіі ў суседзяў-палякаў у памеры 520 долараў. Дарэчы, хто з беларусаў за мяжой часта бывае, той ведае, што за Бугам цэны практычна на большасць тавараў меншыя, чым у нас. Падобнае становішча і ў літоўцаў, дзе неўзабаве мінімальная зарплата вырасце да 300 еўра ў месяц.

Аднак беларусам падобная перспектыва не свеціць, бо мы не пайшлі на Захад, а падтрымалі выбар кіраўніцтва краіны па цеснай прывязцы да Расіі. Наша краіна ўзяла накірунак на Усход і ўступіла паслядоўна ў Саюзную дзяржаву РФ і РБ, потым у Мытны саюз, адзіную эканамічную прастору ЕАЭС. Праўда, на нядаўнім саміце дзяржаў Усходняга партнёрства і ЕС у Рызе беларуская дэлегацыя была прадстаўлена на чале з главой МЗС. Аб'ядная Еўропа не зачыняе перад намі дзверы дзякуючы нейтральнай пазіцыі А. Лукашэнкі па вайне на Данбасе.

У канцы чэрвеня нават магчыма падпісанне дамовы з ЕС аб аблягчэнні для беларусаў візавага рэжыму. З Латвіяй таксама аблегчыцца перамяшчэнне праз мяжу жыхароў прыгранічных тэрыторый з абодвух бакоў. З еўрапейцамі будзем супрацоўнічаць і ў пытаннях ранняга папярэджання тэхнагенных аварый. Аднак, гэтага мала, бо паранейшаму глядзім у бок Крамля, вобразна кажучы, за што і будзем расплачвацца. Невыпадкова напрыканцы мая ў Казахстане сабраліся прэм'ер-міністры трох вядучых дзяржаў ЕАЭС. Гэта інтэграцыйнае аб'яданне быццам і дзейнічае, а што з таго толку?

Трэці год запар усё больш хуткімі тэмпамі падае ўзаемны тавараабарот унутры гэтага саюза. Да прыкладу, у 2013 годзе беларусы ўзаемна нагандлявалі меней з рускімі і казахамі на 5 %. Летась гэта лічба ўзрасла да 11 %, а ў 2015 годзе знізіўся ў першым квартале ўжо ўзаемны гандаль на 33,4 %, у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года. Яшчэ больш крыўдна, што беларускія тавары сталі сёлета меней прадавацца ўнутры ЕАЭС на 40,6 %. Калі ўлічыць, што айчынны экспарт тавараў ва Украіну ўпаў яшчэ болей, на 50 %, то вось вам і адна з галоўных прычын цяперашняга крызісу, які толькі пачынаецца.

Ад думкі, што лягчэй усім нам не стане мінумум яшчэ года паўтара, робіцца даволі трывожна. А зусім хутка, ужо ў жніўні сёлета нашай краіне трэба будзе выплаціць замежным крэдыторам па выкупленых еўрабондах 1 млрд. долараў. На ранейшых замежных крэдытах Беларусь да канца года павінна пагасіць 4 млрд. долараў, а вось валютныя даходы краіны сталі змяншацца. Кітайскія новыя мільярдныя крэдыты ўсю гэту суму не пакрыюць, хоць яны і выгадныя. Аднак сумы з Паднябеснай напалову абумоўлены пастаўкамі кітайскага абсталявання, тэхнікі, тэхналогій і іх спецыялістаў, нават рабочых.

На еўразійскім агульным рынку, на жаль, так і не знялі поўнасцю бар'еры па шляху перамяшчэння тавараў, што стала асабліва адчувальна для беларусаў. Тыя ж казахі не толькі рускія тавары, але і нашы асабліва не жадаюць купляць, аддаючы перавагу больш якасным заходнім аналагам. Пасля ўступлення Расіі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю Беларусі таксама стала складаней канкураваць на расійскіх прасторах з замежнымі вытворцамі. Структура айчыннай эканомікі даўно не змяняецца і таму, калі ў 2017 годзе крызіс і рэцэсія ў Расіі, а потым і ў нас, закончацца, беларускім прадпрыемствам не трэба спадзявацца на ранейшыя аб'ёмы вытворчасці. Паратунак для нас толькі ў выпуску новых тавараў сусветнай якасці і пры прымальных для спажыўцоў цэнах.

## Дзень за днём

**Непрададзеныя складскія запасы айчыннай прадукцыі зноў выраслі і ў маі перавысілі 39 трлн. рублёў. Пасля трох раўндаў кансультацый Беларусь дамовілася з ЕС аб спрашчэнні візавых працэдур, за выключэннем тэхнічных момантаў. Як і на папярэдніх выбарах 2010 года, зноў ужо 6-7 чалавек выказалі жаданне стаць быццам "канкурэнтамі" А. Лукашэнку. Да канца года колькасць беспрацоўных беларусаў можа перавысіць 300 тысяч. Ужо кожная пятая беларуская сям'я з дзецьмі няпоўная, без аднаго з бацькоў. Этнічным беларусам спросцяць атрыманне грамадзянства, а прадпрымальнікам дазволяць яшчэ паўгода працаваць без плацежных тэрміналаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Дзяржсакратар Д. Керры ў Сочы прыгразіў Пуціну, што калі рускія сунуцца ў Марыупаль, Украіна атрымае найноўшую зброю, а Расія – яшчэ больш жорсткія санкцыі.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка заявіў, што агрэсару Расіі не Крым быў патрэбен з 1/6 сушы на планеце, з якой ён часта не спраўляецца, а ўся Украіна, слабая і зломленая.

**Польшча.** Новы 43-гадовы прэзідэнт А. Дуда паабяцаў весці яшчэ больш жорсткую антырасійскую палітыку, бо Расія ваеннымі сродкамі ўмешваецца ў справы Украіны.

**Бельгія.** Генсек НАТО Й. Столтэнберг заявіў, што ў альянса ёсць шмат доказаў прысутнасці рускіх войск і іх навейшай зброі з ваеннымі інструктарамі на Данбасе.

**Англія.** Каралева Вялікабрытаніі Елізавета II, выступаючы ў парламенце, паведаміла, што да канца 2017 года пройдзе рэферэндум аб выхадзе англічан са складу Еўрасаюза.

**Сербія.** Прэм'ер-міністр А. Вучыч пацвердзіў, што стратэгічная мэта краіны – шлях у ЕС, сербы таксама далучацца да праекта будуемага газаправода з Азербайджана.

**Туркменістан.** У сталіцы краіны зноў сталі ўвекавечваць пры жыцці новага прэзідэнта Бердымухамедава, устанавілі 21-метровую яго пазалочаную статую на скакуне.

**Расія.** З асаблівай жорсткасцю ў Люберцах 38-гадовы паліцэйскі з праблемамі псіхікі забіў і пракруціў праз мясарубку двух суседаў па камуналцы і іх 6-гадовага сына.

**Францыя.** На 83-й сесіі Міжнароднага эпізаатычнага бюро Еўрасаюз выдзеліў ветслужбам Беларусі 1,5 млн. еўра для барацьбы з хваробамі і шаленствам дзікіх жывёлін у 2015 годзе.

**Германія.** Аўтамабілі Ford Fiesta зборкі аўтазавода ў Кёльне трэці год запар сталі самымі прадаваемымі ў Еўропе, іх прадалі ўжо за 39 гадоў выпуску больш 17 мільёнаў штук.

**Расія.** Кампанія "КАМАЗ" скараціла колькасць працоўных дзён у чэрвені да 7, сёлета прадажы яе аўтамабіляў нават унутры краіны скараціліся ўжо ў 2 разы.

**Індыя.** З-за нерагоднай гарачыні пад 50 градусаў цяпла толькі за тыдзень у штатах Тэлангана і Андра-Прадзеж загінула больш 1100 чалавек, пераважнай старэй 50 гадоў.

**Швейцарыя.** Пасля арышту за атрыманне хабару 14 сваіх функцыянераў ФІФА пацвердзіла, што запланаваныя ў Расіі і Катары чэмпіянаты свету па футболе адбудуцца.

**Расія.** Дэпутаты Дзярждумы прапанавалі дазволіць адпраўляць зняволеных з калоній на будаўніцтва аб'ектаў для правядзення чэмпіянату свету-2018 па футболе.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Беларуская чыгунка пацвердзіла, што з 13 снежня 2015 года беларускія пасажырскія і грузавыя цягнікі будуць хадзіць у адным часавым рэжыме з еўрапейскімі.

**Абчак.** На аўтазаводзе "Юнісан" пад Мінскам пачалі зборку яшчэ двух мадэляў аўто французскай маркі Citroen, мадэльны рад машын беларускай зборкі вырас да 12.

**Брэст.** У мясцовым тэхнічным універсітэце адкрылі новую спецыяльнасць па падрыхтоўцы праграмістаў сучаснага пакалення для электронных мабільных сістэм.

**Мінск.** Завод халадзільнікаў ЗАТ "Атлант" услед за пераходам на працу 4 дні спыніў свой галоўны канвеер, па няпоўным графіку працуюць ужо 80 % прадпрыемстваў краіны.

**Шклоў.** На вясковых могілках вёскі Хімы, што на Аршаншчыне, знайшла вечны спакой 90-гадовая маці А. Лукашэнкі Кацярына Трафімаўна, яе продкі былі з тэрыторыі Украіны.

**Мінск.** Лідар Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў А. Ярашук заявіў, што краіна знаходзіцца толькі ў самым пачатку крызісу, у многіх вытворцаў няма будучага.

**Ліда.** Пры праверцы 5 школьных сталовых і харчблокаў горада Дзяржкантроль выявіў кішэчную палачку і стафілакокі ў СШ № 8 і № 17, палова порцый ежы была ніжэй нормы.

**Мінск.** З-за моцнага падзення аб'ёмаў прадаж жаночай бялізны ў краіне і за граніцай швейная кампанія "Мілавіца" ўпершыню перайшла на трохдзённы працоўны тыдзень.

**Масты.** Міліцыя распачала крымінальную справу супраць 54-гадовай галоўнага бухгалтара калгаса, яна здавала ў наём сваё службовае жыллё, а дамоў ездзіла за 25 км.

**Мінск.** На пасяджэнні аблвыканкама дзяржсакратар Савета бяспекі Беларусі А. Мяжуеў паведаміў аб татальных праверках заробкаў дырэктараў прыватных прадпрыемстваў.

**Столін.** Падчас моцнай навальніцы маланка спаліла драўляны храм XIX стагоддзя ў вёсцы Сіцыцк, у раёне ад разраду маланкі моцна пацярпелі яшчэ 3 жылыя дамы.

**Светлагорск.** Суд раёна пакараў 2 гадамі турмы з адтэрміноўкай на год 25-гадовага эканаміста, які зняў і выклаў у інтэрнэт прылюдны сэкс нецвярозай пары на набярэжнай.

**Брэст.** Глава вобласці Анатоль Ліс запатрабаваў узмацніць кантроль за зборам ягад і грыбоў у лясах, прыняць меры па недапушчэнні знішчэння лясной раслiннасці.

**Гродна.** Раніцай на пешаходным пераходзе двух дзяўчат збіў і пераехаў трактар з газонакасілкай, абодвух у цяжкім стане шпіталізавалі ў абласную бальніцу.

**Гомель.** Міліцыя з падатковай інспекцыяй штрафавала на 2 млн. рублёў доктара і канфіскавала з ягонай калекцыі 178 бутэлек розных віскі, рому, брэндзі, вінаў, каньякоў.

Мядзель. Неадназова судзімы 46-гадовы жыхар райцэнтра з асаблівай жорсткасцю забіў 76-гадовую суседку ў шматкватэрным доме, а цела схаваў у запоўненай вадой ванне.

## Пасольствы Польшчы і Літвы на нейкі час будуць выдаваць менш віз, чым цяпер



■ Зміцер Панкавец

**Ад 23 чэрвеня для грамадзян Беларусі ўступаюць у сілу новаўвядзенні па атрыманні Шэнгенскіх віз.**

Ад гэтага часу ўсе пасольствы і консульствы дзяржаваў – удзельніц Шэнгенскага пагаднення пераходзяць на эксплуатацыю візавай інфармацыйнай сістэмы ВІС.

Цяпер усім заяўнікам ва ўзросце старэйшым за 12 гадоў у консульствы і пасольствы неабходна будзе прадставіць адбіткі пальцаў і біяметрычную фатаграфію.

Пры атрыманні наступных віз ўжо цягам 59 месяцаў здаваць адбіткі пальцаў не будзе неабходнасці, аднак пасля сканчэння гэтага тэрміну працэдура будзе паўтарацца.

У пасольства ЕС у Беларусі кажуць, што гатовыя да ўкаранення новай сістэмы. Хаця пры гэтым адзначаюць, што, натуральна, будзе нейкі час адаптацыі, але станоўчы досвед іншых краін сведчыць, што доўгім ён быць не павінен.

У пасольстве Польшчы ў Беларусі паведамілі, што пасля 23 чэрвеня яны павялічваюць колькасць акенцаў, якія будуць абслугоўваць людзей, што падаюць дакументы. На сёння гэта 7 акенцаў, а будзе 9. Таксама зменяюцца гадзіны працы. Калі на сёння дакументы прымаліся з 9 да 14 гадзін, то будзе з 9 да 16.

«Спачатку аб'ём зменшыцца, але мы спадзяёмся ў вельмі кароткі час вярнуцца на апрацоўку той колькасці заявак, якую мы маем цяпер», - запэўнілі дыпламаты.

Павелічэнне колькасці акенцаў, а таксама супрацоўнікаў пацвердзілі і ў пасольстве Германіі.

Што тычыцца пасольства Літвы, дзе многія беларусы атрымліваюць шэнгенскія візы, то там паведамілі, што на першасным этапе колькасць выдачы віз будзе зменшана, але яны таксама спадзяюцца ў хуткім часе вярнуцца да сённяшніх аб'ёмаў.

У размове з польскімі дыпламатамі была закранутая тэма электроннай рэгістрацыі, на якую скардзяцца беларусы. «Так, сапраўды, калі мы запускаем новыя месцы, то яны знікаюць літаральна цягам 30 секунд. Мы інфармуем пра гэта Варшаву. Вельмі спадзяемся, што праблема будзе вырашаная».

У пасольствах Германіі і Італіі паведамілі, што такіх праблем не маюць. На сённяшні момант можна запісацца на прыём нават на наступны тыдзень.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З-за эканамічнага крызісу і недаатрымання 294 млрд. рублёў расходы бюджэтаў вобласці і рэгіёнаў будуць істотна скарочаны, намечана скарачэнне штатаў бюджэтнікаў.

**Полацк.** На эксперыментальнай устаноўцы ААТ "Полац-Шкловалакно" выпусцілі пробную інавацыйную прадукцыю базальтавых нітак для замены металу ў бетоне.

**Віцебск.** Каля гадзіны ночы на вуліцы Чкалава 41-гадовы вадзіцель Audi 100 на вялікай хуткасці ўрэзаўся ў вулічны ліхтар і адразу загінуў ад моцнага лабавога ўдару.

**Шуміліна.** Падатковая інспекцыя праз суд затрабавала ад 80-гадовай пенсіянеркі выплаць 13,8 млн. рублёў падаткаў за набыццё старой раней двух кватэр у Віцебску.

**Орша.** Паблізу горада міліцыя выявіла нелегальны пункт прыёму металалому, які арганізавалі ў гаражы двое мясцовых жыхароў і зарабілі больш 360 млн. рублёў.

**Шаркаўшчына.** Мясцовае райпо і кансервавагароднінасушыльны завод сталі адным філіялам Полацкай універсальнай базы, яна адкрые ў райцэнтры краму будматэрыялаў.

**Глыбокае.** Услед за Паставамі ў райцэнтры з бласлаўлення архіепіскапа Полацкага і Глыбоцкага Феадосія прайшла праваслаўная духоўнаасветніцкая выставакірмаш.

**Мёры.** Вядомы гісторык СШ № 3 і краязнаўца Вітольд Ермалёнак пры падтрымцы кіраўніцтва раёна і калег адкрыў у горадзе этнаграфічны музей "Сялянская хата".

**Докшыцы.** У раёне правялі чарговы дзень сельсавета ў Ваўкалатах, 34 вёскі якога яшчэ болей абязлюдзелі, у іх пражывае ўжо меней тысячы чалавек, 93 хаты зусім апусцелі.

**Браслаў.** На працягу двух дзён райцэнтр святкаваў свой 950-гадовы юбілей, упершыню прайшоў турнір беларускіх бытавых танцаў і зноў фестываль рыцараў "Меч Брачыслава".

**Паставы.** Напярэдадні XVIII Міжнароднага фестывалю народнай музыкі горад наведалі музейныя работнікі Рокішскага раёна Літвы па рэалізацыі сумесных праектаў турызму.

**Віцебск.** Расійскі ФК "Кубань" адправіў у адстаўку трэнера, экс-іграка ФК "Віцебск" Л. Кучука, з-за якога раней быў звольнены іншы беларускі спецыяліст В. Ганчарэнка.

**Ушачы.** З гардэроба сваёй школы ў райцэнтры 16-гадовая вучаніца ўкрала куртку, кашулю, чаравікі, што зафіксавала камера відэаназірання, узбуджана крымінальная справа

**Верхнядзвінск.** Суд раёна пакараў 6 млн. рублёў штрафу 18-гадовага вяскоўца, які перад Новым годам скраў фігуру дэкаратыўнага аленя з падсветкай ад будынка аўтастанцыі.

**Орша.** Выхаванка мясцовай ДЮСШ Аліна Талай бліскуча пачала летні сезон, выйграла турнір у Галандыі і заняла 2-е месца ў бегу 100 м з бар'ерамі на этапе Сусветнай лігі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Клімавіцкі хлебазавод абраў сабе беларускамоўны брэнд «Daloni»

**Тады Глыбоцкі хлебазавод, напэўна, мусіць абраць сабе брэнд "Malcy"?**

Новы брэнд кампаніі «Daloni» не толькі беларускамоўны, але і выкананы беларускай лацінкай.

Для Клімавіцкага камбіната хлебапрадуктаў, што на Магілёўшчыне, распрацавалі брэнд з беларускім словам «Далоні». Гандлёвая марка прадпрыемства напісаная лацінкай і мае афармленне ў белых і чырвоных колерах. Пад гэтым брэндам будуць прадаваць муку, камбікорм, крупы, рапсавы алей, мучныя паўфабрыкаты.

*«Слова «Далоні» сугучнае і з італьянскімі словамі, і шыкоўна гучыць на беларускай мове. Гэта слова аб'ёмнае, і яго можна па-рознаму тлумачыць»*, — тлумачыць выбар назвы брэнду начальнік аддзелу маркетынгу і знешнеэканамічнай дзейнасці прадпрыемства Святлана Каратцова.

Брэнд для камбінату распрацавала мінская фірма Public Group.

*Паводле Радыё Свабода*

**PS.** А які брэнд прыдумаць для Глыбоцкага хлебазавода? Мо "Korsak" - "Корсак", альбо "Volat" - "Волат", ці, усё ж – "Malcy" - "Мальцы"?




# Ці чулі Вы?

## Дома можна захоўваць не больш за 10 літраў замежнага алкаголю: у Гомелі заведзеная справа супраць калекцыянера

У Беларусі дзейнічае норма, паводле якой захоўваць можна не больш за 10 літраў замежнага алкаголю без акцызных марак, якія сведчаць аб продажы напояў у Беларусі, на чалавека. Калі ты купіў у Беларусі і маеш акцызныя маркі і чэкі — то колькі хочаш. Але калі за мяжой куплена — то не. Беларускага ж алкаголю без чэкаў можна захоўваць не больш за 30 літраў (чытай артыкул 12.27 Адміністратыўнага кодэкса).

На наведанні гэтай нормы пагарэў доктар з Гомеля — апантаны калекцыянер спіртовых напояў. На яго «настукалі», і міліцыя з падаткавай выявіла ў яго дома цэлы склад.

У сям'і ў яго тры чалавекі, таму дапушчальная да захоўвання колькасць літраў у яго засталася, а *«178 бутэлек гарэлкі, віскі, рому, віна, бальзаму і каньяку мы канфіскавалі, акрамя таго калекцыянер аштрафаваны на 2 мільёны рублёў»*, — kp.by намесніца начальніка Інспекцыі МПЗ па Савецкім раёне Гомеля Таццяна Гюнтэр.

***kp.by***

# «Белтэлекам» хоча зрабіць Skype платным

**«Белтэлекам» абвясціў тэндар на закупку праграмна-апаратнага комплексу, адной з задач якога будзе збор і захаванне гісторыі наведвання інтэрнэта.**

Варта адзначыць, што гэта патрабаванне - захоўваць логі - кожны аператар сувязі або правайдэр абавязаны выконваць з 2016 года, піша АФН.

Умовы тэндару таксама раскрываюць намеры дзяржпрадпрыемства улезці на мясцовы рынак кантэкстнай рэкламы. Але галоўнае палягае ў наступным.

Адзін з лотаў тэндару прадугледжвае пастаўку АПК, здольнага ідэнтыфікаваць і тарыфікаваць выходны галасавы трафік (у тым ліку IP-тэлефанія) з прывязкай да канкрэтнага карыстача (кліента) сеткі інтэрнэт, паведамляюць блізкія да ААЦ крыніцы.

**Іншымі словамі, сістэма будзе здольная адсачыць вашы галасавыя стасункі са сваяком, таварышам, да прыкладу ў ЗША, і выставіць вам рахунак за тэлефонныя размовы ў дзейных тарыфах.**

Відавочна, што агучаная не так даўно заява высокапастаўленых чыноўнікаў ад Мінсувязі Беларусі аб тым, што трэба прымусіць Skype і іншыя падобныя прыкладанні падзяліцца даходамі, не проста страсенне паветра.

# Свята на Замкавай гары: Браславу – 950 гадоў




Выява старажытнага браслаўскага замка.

**Уладзімір Скрабатун**



**Віктар Дудкевіч** (у цэнтры ля мікрафона), **майстра і самадзейны мастак з Глыбоцкага дома рамёстваў падараваў Браславу два мячы Брачыслава: вялікі – гораду, а маленькі – раддому – "таму хлопцу, які народзіцца сёння ў Браславе і назавуць яго Брачыславам".** *Фота Уладзіміра Скрабатуна.*

Браслаў адзін з самых старажытных гарадоў Беларусі, сёлета яму споўнілася 950 гадоў з дня першай згадкі ў гістарычных дакументах. Шмат хто лічыць, што назва горада паходзіць ад імя полацкага князя Брачыслава, але ёсць і іншае меркаванне – ад балцкага слова "брасла", што азначае «брод». Браслаў жа знаходзіцца на перашыйку між азёрамі. Над горадам узвышаецца высокая Замкавая гара. Некалі быў замак...

Калі ёсць недзе на Беларусі гара, на якой, сеўшы і звесіўшы ногі, можна глядзець уніз на дахі горада і азёры, дык такая гара – толькі ў Браславе. Замкавая!

Святкаванне юбілею Браслава па сцэнару радыкальна адрознівалася ад падобнага святкавання 600-годдзя Глыбокага. У Глыбокім усё больш па-сучаснаму, у Браславе – у традыцыях сярэднявечча.

Святочныя мерапрыемствы пачаліся а 13-й гадзіне ўрачыстым адкрыццём міжнароднагасвятатрадыцыйнай культуры "Браслаўскія світанкі – 2015". Затым адбыўся Абласны агляд-конкурс вакальна-харавых калектываў "Браслаўскія харавыя асамблеі" ды Абласны турнір бытавых беларускіх танцаў. Але ўсё гэта – для мясцовага ўжытку, для аматараў такога жанру. Большасць жа гасцей горада, мясцовая моладзь, імкнуліся патрапіць на святкаванне да 18-й гадзіны на Замкавую гару. Вось тут і была сама разынка! Прыехалі рыцарскія клубы з Полацка, Віцебска, Мінска і Ліды, а таксама госці з Лагаліі – клуб "Крома Колна" (г. Рэзэкнэ). Яны прадставілі гледачам камандныя спаборніцтвы "Калізей", "Ваўчарня", "Бай на мосце".

Традыцыйна, на ўсіх штогадовых браслаўскіх святкаваннях на Замкавай гары здабываюць жывы агонь старажытным спосабам. Ад яго запальваюць паходні (факелы) і дастаўляюць у кожны рыцарскі стан.

Гурт "Літы Талер" пад гукі дуды (валынкі) і бой барабанаў зладзіў масавыя сярэднявечныя танцы.

Увечары, на Замкавай гары, моладзь танцавала пад гукі папулярнага беларускамоўнага гурта "NRM".

Парадаваў гледачоў і мінскі тэатр "Ды-Грыза" сваімі акрабатычнымі шоу і шэсцем на хадулях. Ды й зрэшты, гэты тэатр быў бадай адным з галоўных цвікоў усяго свята. Калі спусцілася цемра на горад, тэатр "Ды-Грыза" паказаў захапляльнае агнявое шоу, якое перад гэтым было спалучана з вечаровым факельным шэсцем удзельнікаў рыцарскіх клубаў.

Надумаў узяць на свята ўнучку Насцю... – Ай, не хачу я ў Браслаў!– аднеквалася яна. Як схітрыць? – У Браславе шашлыкі смачнейшыя!– маню. Яна паверыла. Цяпер, ад убачанага там, яна ў вялікім захапленні! І сяброўкі вельмі зайздросцяць!

Трэба моладзі папулярызаваць гісторыю і геаграфію Беларусі! Гісторыю і геаграфію проста так не ўявіш, але ёсць месцы, дзе яе можна навочна ўбачыць і дакрануцца!



**Латгалы шырока выкарыстоўваюць у аздобе адзення салярны арнамент у выглядзе свастыкі. Свастыка – сімвал Сонца.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Каронны нумар пры сканчэнні ўсіх рыцарскіх фэстаў – ваяры раптоўна і нечакана, з аголенымі мячамі і сякерамі, кідаюцца ў атаку на ... натоўп гледачоў! Во, страху і віску!** *Фота Ул. Скрабатуна.*

**Распараджэннем Глыбоцкага райвыканкама №65р ад 08.04.2015 зацверджаны пералік месцаў масавага адпачынку на водных аб'ектах.**

У адпаведнасці з дадзеным распараджэннем у Глыбоцкім раёне вызначана 8 адпаведных зон адпачынку (зоны адпачынку на воз.Мушкат, воз.Белае, воз.Бяглец, воз.Чачалі, воз. Акунёўскае, воз.Алоізберг, воз.Вялікая Пліса, воз.Кагальнае), якія з'яўляюцца найболей бяспечнымі.

# Пракуратура правяла маніторынг месцаў масавага летняга адпачынку ў Глыбоцкім раёне

У сувязі з хуткім перыядам масавых адпачынкаў, летніх вакацый студэнтаў і навучэнцаў пракуратурай раёна сумесна з Глыбоцкім райаддзелам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя праведзены маніторынг добраўпарадкавання ўсіх месцаў масавага адпачынку на водных аб'ектах, а таксама іх гатовасць да адкрыцця купальнага сезону.

На момант правядзення маніторынгу усталявана, што не ўсе ўказаныя аб'екты былі добраўпарадкаваныя належным чынам. А менавіта: з тэрыторыі зон адпачынку воз.Белае, воз. Бяглец, воз.Акунёўскае, воз. Алоізберг не прыбрана смецце, патрабаваўся абкос пустазельнай расліннасці і іншае.

Па выніках маніторынгу пракуратурай раёна вынесена прадпісанне аб ухіленні згаданых парушэнняў.

***Аляксандра Еўдакімава,*** *памочнік пракурора Глыбоцкага раёна.*

## Сацыёлаг Сяргей Нікалюк:

# Ніякія сур'ёзныя працэсы развіцця ў Беларусі немагчымыя без змяненняў у Расіі

**Ніякіх сур'ёзных працэсаў развіцця ў Беларусі без змянення сітуацыі ў Расіі быць не можа, заявіў сацыёлаг, эксперт Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (Літва) Сяргей Нікалюк, выступаючы 7 чэрвеня ў Мінску на другой сесіі кангрэса за незалежнасць Беларусі.**

■ **Захар Шчарбакоў,** *БелаПАН*

Праграсіўныя працэсы ў Беларусі, паводле яго слоў, «немагчымыя па чыста эканамічных прычынах». Ён звярнуў увагу, што некалькі разоў за апошнія гады сітуацыя ў Беларусі ішла да таго, што ў краіне «меліся адбыцца вялікія змяненні, абвастрэнні». «Рэйтынгі падалі, але ўсё завяршалася аднолькава – прыязджаў Уладзімір Уладзіміравіч, даставаў з кішэні некалькі мільярдаў і змяняў усю бягучую сітуацыю», – растлумачыў сацыёлаг.

Увесь мінулы год у Беларусі прайшоў пад знакам таго, што Нікалюк назваў «анамалія-2014». Гэта выказалася ў тым, што пад уплывам «не столькі падзей ва Украіне, колькі інтэрпрэтацый расійскіх СМІ» адбылася нетыповая з'ява – індыкатары, якія характарызуюць настрой грамадства, не адпавядалі сітуацыі, калі рэзка зніжаліся тэмпы росту даходаў насельніцтва.

«Вырас давер да ўсіх уладных інстытутаў, уключаючы першую асобу. Гэтая ж з'ява прывяла да таго, што жаданне інтэгравацца з Захадам знізілася, а жаданне інтэгравацца з Расіяй узрасло», – сказаў ён.

Апытанне НІСЭПД у сакавіку гэтага года паказала, што «дзеянне анамаліі» прадоўжылася, нягледзячы на ўнутранае расслаенне гэтага працэсу. Беларусы моцна адрэагавалі на снежаньскую дэвальвацыю, але тое, што звязана з ацэнкай будучыні і курсам краіны, там змяненні мінімальныя».

«Гэта здарылася выключна за кошт расійскай прапаганды, — растлумачыў сацыёлаг. — Усё гэта адбылося не ад страху, а ад абсалютна процілеглага пачуцця — большую частку беларусаў ахапіла патрыятычная эйфарыя. Нездарма анамалія нарадзілася ў сакавіку мінулага года, калі нічто яшчэ не страляў, калі адбылося тое, што пазней назвалі «Крым – наш». Ну а Аляксандр Рыгоравіч са сваім рэйтынгам тут проста трапіў пад раздачу. Яго заявы [па Украіне] да гэтага не маюць дачынення».

Рэакцыя беларусаў на падзеі ва Украіне, якую фіксуе НІСЭПД, з'яўляецца рэакцыяй «не рускага ці беларуса, а чалавека савецкага». «Чалавек савецкі», паводле меркавання Нікалюка, у Беларусі паранейшаму складае большасць, ён «нікуды не дзеўся, узнаўляецца найперш натуральным шляхам, таму што любая культура імкнецца да ўзнаўлення». Па-другое, сказаў ён, «узнаўленне чалавека савецкага з'яўляецца галоўнай задачай нашай улады».

У той жа час сацыёлаг лічыць, што культурная і цывілізацыйная сістэма, у якой «квітнее» Беларусь, «завяршае свой гістарычны тэрмін». І тое, што сёння назіраецца ў Расіі, з'яўляецца «агоніяй гэтай сістэмы».

«Галоўнай умовай нашага развіцця на працягу стагоддзяў з'яўляецца хаос. Калі ўзнікае хаос і распадаюцца дзяржавы, тады з'яўляецца магчымасць для развіцця. Калі дзяржава моцная, яна блакіруе любое развіццё, у тым ліку ўнутры сябе», – сказаў Нікалюк.

## Палітолаг Андрэй Фёдараў:

# Калі Беларусь зробіць крок насустрач Еўропе, Расія зробіць з ёй тое ж, што і з Украінай

**Палітолаг Андрэй Фёдараў не сумняваецца, што Беларусь чакае той жа лёс, што і Украіну, калі яна зробіць крок насустрач Еўропе, а ў Расіі хопіць сіл. З такім меркаваннем ён выступіў 7 чэрвеня ў Мінску на другой сесіі кангрэса за незалежнасць Беларусі.**

■ **Захар Шчарбакоў,** *БелаПАН*

Кажучы аб тым, як складзецца знешнепалітычны вектар развіцця Беларусі, калі да ўлады прыйдуць прадстаўнікі дэмакратычных сіл, Фёдараў адзначыў, што ў гэтым выпадку «праблемы з Саветам Еўропы, ААН і АБСЕ, якія яшчэ існуюць, будуць вырашаныя вельмі проста». «Дастаткова ажыццявіць тое, да чаго імкнецца дэмакратычная грамадскасць Беларусі – устанавіць нармальны дэмакратычны рэжым», – растлумачыў ён.

Нармалізацыя адносін з НАТО, сказаў палітолаг, таксама «можа быць дасягнута вельмі хутка», калі Беларусь «насамрэч рэалізуе канстытуцыйнае палажэнне аб нейтралітэце».

Для паляпшэння ўзаемаадносін з Еўрасаюзам, паводле слоў Фёдарава, Беларусі трэба будзе вызначыцца, ці мае намер яна «далучыцца да ЕС у поўнай меры» ці проста пашыраць супрацоўніцтва, застаючыся ўбаку, як Украіна, Грузія і Малдова.

Аднак сёння становішча ў свеце «кардынальна змянілася» з-за расійскага фактару: «Мы бачым, што Масква зрабіла з Украінай, калі тая паспрабавала зрабіць першы крок насустрач аб'яднанай Еўропе». «У мяне няма ніякіх сумненняў у тым, што Беларусь чакае той жа лёс і нават горш, калі яна зробіць такі ж крок, як і Украіна, а ў Расіі хопіць сіл», – сказаў палітолаг.

Расія, паводле яго слоў, не дасць Беларусі дасягнуць нейтралітэту, паколькі гэта азначае «вывад расійскіх ваенных баз» з тэрыторыі краіны. У святле гэтага «любыя рэзкія крокі будуць вельмі рызыкоўнымі», папярэдзіў Фёдараў.

«Таму, калі пры прыходзе новай улады сённяшнія знешнія акалічнасці з большага захаваюцца, то яе знешняя палітыка павінна быць выключна асцярожнай для дасягнення галоўнай мэты – захавання незалежнай Беларусі, якую абвясцілі нашы продкі ў 1918 годзе, нават калі для гэтага давядзецца пайсці на здзелку з д'ябламі», – сказаў палітолаг.



Жыхар в. Шо Іван Анашкевіч па здымку пазнаў загінуўшага памежніка.

# У Польшчы знайшліся сваякі камандзіра стражніцы Каменны Воз, які загінуў 17 верасня 1939 года

**Нашчадак сям'і Палчынскіх Кшыштаф Бурскі разам з польскімі турыстамі наведаў Глыбоччыну.**

■ **Зміцер Лупач,** *тэкст і фота*



Камандзір польскай стражніцы Каменны Воз, якая месцілася ў Галубіцкай пушчы на Глыбоччыне, Стэфан Павел Палчынскі загінуў 17 верасня 1939 года, абараняючы мяжу. Перад гэтым ён, па сведчаннях мясцовых жыхароў, дзве гадзіны трымаў абарону, знішчыўшы некалькі дзясяткаў чырвонаармейцаў.

Калі яго забілі, то два дні не давалі пахаваць. Потым мясцовыя жыхары ноччу яго тайна захавалі непадалёк ад стражніцы. Месца пахавання зарасло лесам і было невядомае, пакуль у 2011 годзе парэшткі памежніка не былі знойдзеныя жыхаром вёскі Хралы Віктарам Жаваранкам.

Яны былі ўрачыста перазахаваныя на могілках у Глыбокім 17 верасня 2011 года. На месцы гібелі Палчынскага быў пастаўлены крыж. Але дагэтуль ніхто не ведаў, адкуль ён быў родам і як выглядаў.

І вось зараз стала вядома, што Стэфан Павел Палчынскі нарадзіўся ў Кракаве ў 1909 годзе. У яго была сястра, малодшая за яго на шаснаццаць гадоў. І вось зараз яе ўнук Кшыштаф Бурскі наведаў Глыбоччыну, каб выказаць падзяку ўсім, хто спрычыніўся да захавання памяці польскага памежніка. Ён уручыў ліст падзякі ад свайго бацькі Віктару Жаваранку.

Жыхар вёскі Шо Іван Анашкевіч па здымках, якія яму паказалі, пазнаў былога памежніка. Ён распавёў, што польскія жаўнеры былі забраўшы ў яго бацькі сеткі і рыбу, а Палчынскі загадаў усё гэта вярнуць і папрасіць прабачэння.

Дапамог адшукаць сваякоў Палчынскага жыхар Варшавы Уладзіслаў Краўчук, які ўзначальвае Згуртаванне браслаўян у Варшаве. Ён паказаў таксама кулі, якія былі знойдзеныя ў целе памежніка.

Кшыштаф Бурскі паведаміў, што спачатку інфармацыі пра Стэфана ніхто ў сям'і не хацеў верыць, а потым вырашылі, што яму трэба тэрмінова ехаць. Неўзабаве ён збіраецца сюды вярнуцца разам з іншымі сваякамі героя.



Кшыштаф Бурскі ўручае Віктару Жаваранку ліст падзякі ад свайго бацькі.

# Улоў у браканьераў быў неблагі, але і ў інспектараў таксама добры



**Лета, выдатны час, сонца, паветра і вада. Жыві і радуйся, цешся прыродай, але так бывае далёка не заўсёды. З-за нашага варварскага стаўлення да жывёльнага і расліннага свету ў недалёкай будучыні мы можам незваротна страціць некаторыя віды жывёл, рыб, птушак, дрэў.**

**А.В. Протас,** *начальнік Глыбоцкай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Штодня супрацоўнікі Дзяржаўнай інспекцыі затрымліваюць дзясяткі парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства. На іх рахунку – незаконная здабыча рыбы сеткамі, электравудамі, высечка лесу, браканьерскае паляванне і шмат іншага.

На жаль, такіх грамадзян менш не становіцца, адны ловяць рыбу, іншыя ахвотна купляюць яе за капейкі, не думаючы пра тое, што колькасць рыбы ў вадаёмах не бясконцая. У краіне дэмаграфічная праблема, але да яе можа дадацца і праблема з захаваннем лесу, рыбы ў нашых вадаёмах, дзікіх жывёл.

Супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі штодня выяўляюцца і спыняюцца факты браканьерства на падкантрольнай тэрыторыі.

Так, у ноч з 2 на 3 чэрвеня гэтага года на вадасховішчы паблізу г.п. Шаркаўшчына супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі затрыманыя трое жыхароў раёна, якія ажыццяўлялі незаконную здабычу рыбы сеткамі. Улоў у браканьераў быў неблагі, 27 асобін ляшча агульнай вагой 36 кг, лешч ішоў на нераст, чым і скарысталіся парушальнікі, 6 асобін карася срэбнага, 5 асобін плоткі і 2 асобіны акуня рачнога, але і ўлоў інспектараў добры. Затрыманым парушальнікам пагражае крымінальная адказнасць і пазбаўленне волі да 6 гадоў, а таксама пакрыццё прычыненай шкоды ў памеры 52 млн. рублёў.

На тэрыторыі Віцебскай вобласці забарона на выкарыстанне плаўсродкаў і лоўлю рыбы з іх сканчаецца 8 чэрвеня, але асобным грамадзянам закон не пісаны. 5 чэрвеня 2015 года двое жыхароў г. Мінска прыехалі на возера Крыўскае Пастаўскага раёна, з выкарыстаннем лодкі ўсталявалі кружкі для лоўлі шчупака, на заўвагі мясцовых жыхароў аб тым, што яшчэ дзейнічае забарона, адказалі, што яна не для іх. Інспектары, якія прыбылі неўзабаве, хутка астудзілі «гарачых мінскіх хлопцаў», лодку і рыбалоўныя снасці канфіскавалі, а складзеныя пратаколы за парушэнні заканадаўства накіравалі ў суд. Парушальнікаў чакае штраф ад 20 да 50 базавых велічынь з канфіскацыяй лодкі і прылад рыбалоўства.

Толькі за травень інспектарамі міжраённай інспекцыі спынены 4 грубыя парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства, па гэтых фактах узбуджаныя крымінальныя справы, а прад'яўленая парушальнікам шкода склала больш за 250 млн. рублёў, значная частка сродкаў ужо паступіла ў бюджэт дзяржавы. Для асобных парушальнікаў рыба выйшла вельмі дарагая.

Закон строгі, але ён закон і парушаць яго не раім нікому.

**Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць па тэлефонах: «гарачая лінія», 2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49 (МТС).**





# Не выпівайце каля вады – гэта небяспечна, ды яшчэ і аштрафуюць!

**У летні перыяд часу па аб'ектыўных прычынах у краіне адзначаецца павелічэнне колькасці ўтапленняў людзей.**

**В.М. Дайлідзёнак,** *намеснік пракурора Глыбоцкага раёна, малодшы саветнік юстыцыі*

Актуальная дадзеная праблема і для нашага раёна па прычыне значнай колькасці вадаёмаў, размешчаных на яго тэрыторыі. У мінулым годзе на тэрыторыі Глыбоцкага раёна ў выніку ўтаплення загінула 4 чалавекі.

У сувязі з маючым адбыцца пачаткам актыўнага купальнага сезону, перыядам масавых адпачынкаў, летніх канікул студэнтаў і навучэнцаў раённая пракуратура просіць жыхароў раёна звярнуць увагу на неабходнасць выканання правілаў паводзін на вадзе. Прыгэтым бацькам неабходна арганізаваць належны кантроль за баўленнем часу непаўналетніх дзяцей. Пры магчымасці, варта выбіраць для купання вадаёмы, на якіх размешчаны выратавальныя станцыі альбо пасты арганізацый сістэмы Таварыства выратавання на вадзе. На тэрыторыі Глыбоцкага раёна падраздзяленні названага таварыства маюцца на азёрах Мушкат і Бяглец.

Варта памятаць пра тое, што асаблівай небяспецы падвяргаюць сябе асобы, якія купаюцца ў стане алкагольнага ап'янення. Па статыстыцы, пераважная колькасць патанулых грамадзян знаходзілася ў стане алкагольнага ап'янення. На жаль, уласцівая дадзеная праблема і для нашага рэгіёну. Так, двое з загінуўшых у мінулым годзе ў выніку ўтаплення грамадзян знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення.

Улічваючы ўсю сур'ёзнасць сітуацыі, якая складваецца з гібеллю людзей на вадзе, пракуратурай раёна сумесна з Глыбоцкім РАУС у перыяд купальнага сезона запланавана правядзенне рэйдавых праверак месцаў купання на прадмет выяўлення фактаў распівання грамадзянамі спіртных напояў, знаходжання адпачывальнікаў у нецвярозым стане ў грамадскіх месцах. Акрамя таго, з мэтай прафілактыкі правапарушэнняў і гібелі дзяцей на вадзе будуць прымацца меры па выяўленні выпадкаў знаходжання непаўналетніх на берагах вадаёмаў і ў вадзе без нагляду дарослых з наступным прыняццем да апошніх мер рэагавання.

Ні для каго не сакрэт, што прафілактыка правапарушэнняў і забеспячэнне грамадскай бяспекі справа не толькі ўпаўнаважаных органаў, але і кожнага. У гэтай сувязі пракуратура раёна звяртаецца да жыхароў раёна з просьбай праяўляць актыўную грамадзянскую пазіцыю па пазначанай праблеме.



# «Што пасееш, то і пажнеш»

**Штогод вясной усімі дзяржаўнымі органамі і арганізацыямі асаблівая ўвага надаецца якасці правядзення пасяўной кампаніі. Важнае значэнне мае сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў рэгіёне, гатоўнасць сельгаспрадпрыемстваў да пачатку веснавых палявых работ.**

**А. Еўдакімава,** *памочнік пракурора*

У гэтай сувязі пракуратурай раёна сумесна з упраўленнем сельскай гаспадаркі Глыбоцкага райвыканкама, Глыбоцкім РАНС, Глыбоцкім міжрайаддзелам Віцебскага аблупраўлення Дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы праведзены праверкі выканання арганізацыямі АПК Глыбоцкага раёна заканадаўстваабзахаванасці ўласнасці, ахове працы, пажарнай бяспекі падчас правядзення пасяўных работ 2015 года.

У ходзе праверкі гатоўнасці зямлі для пасеву кукурузы пры наведванні сельскагаспадарчых палёў ААТ «Залатая падкова» ўстаноўлена, што перад пасевам на 4 гектарах урочышча «Бам», што месціцца каля в. Пятроўшчына, неабходна было зрабіць дадатковую раздзелку дзёрну, што прадугледжана Галіновым рэгламентам па вырошчванні кукурузы, зацверджаным Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання (пратаколы ад 22.09.2011 №10, ад 05.10.2011 №16, ад 03.11.2011 №18).

Акрамя таго, пры аб'ездзе дадзенага ўрочышча выяўлены факт нерацыянальнага выкарыстання насення кукурузы, а менавіта частка насення прасыпана на зямлю.

Таксама, у выніку наглядных мерапрыемстваў былі выяўленыя парушэнні Правілаў пажарнай бяспекі Рэспублікі Беларусь ППБ 01-2014 пры эксплуатацыі тэрыторыі машынных двароў у в. Дзеркаўшчына, в. Зарубіна, в. Канстанцінава ААТ «Канстанцінаў Двор».

А менавіта: будынкі і збудаванні мехдвароў не забяспечаны першаснымі сродкамі пажаратушэння, дапускалася эксплуатацыя электраправодкі са скруткамі токаводных жылаў, з пашкоджанай ізаляцыяй, не абсталяваны месцы для курэння, дапускалася бязладнае курэнне на тэрыторыі мехдвароў і іншыя парушэнні.

Пры праверцы выканання заканадаўства аб ахове працы ў філіяле «Галубічы» ААТ «Глыбоцкі мясакамбінат» устаноўлена, што некаторыя працаўнікі прадпрыемства былі дапушчаныя да вытворчасці прац без правядзення з імі ўводнага інструктажу, у мехмайстэрні прадпрыемства электратэльфер кранбэлькі эксплуатаваўся з няспраўным канцавым выключальнікам абмежавання ўздыму грузазахватных органаў у яго крайнім верхнім становішчы, злучэнне зварачнага кабеля не ізалявана, на тэрыторыі машыннага двара захоўвалася і рамантавалася аднавосная сельгастэхніка без наяўнасці стацыянарнай стаяначнай апоры і іншае.

Акрамя таго, у шэрагу арганізацый (ААТ «Залатая падкова», ААТ «Канстанцінаў Двор», ААТ «Верхняе») устаноўлены парушэнні Закона Рэспублікі Беларусь «Аб бухгалтарскім уліку і справаздачнасці», а менавіта: у пуцявых лістах кіроўцаў меліся нічым не абумоўленыя выпраўленні, адсутнічалі дадзеныя аб тэхнічнай спраўнасці трактароў, запісы аб рэштках паліва ў баках на пачатак і канец змены і іншае.

Усяго па выніках маніторынгу ў перыяд пасяўной кампаніі 2015 года пракуратурай раёна кіраўнікам сельгаспрадпрыемстваў раёна вынесена 4 прадстаўленні, 1 прадпісанне, 8 службовых асобаў прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці.

